ТОЛЬКІ ТАК!

# СПРАВАВОДСТВА па-БЕЛАРУСКУ!

Люты-3, 2015

## У НУМАРЫ:

### Правы спажыўцоў – кожнаму!

*Змены ў закон “Аб абароне правоў спажыўцоў”*

- Пазіцыя дэпутата Пузырэўскага

- Пазіцыя дэпутата Філіповіч








**НАЦЫЯНАЛЬНЫ СХОД РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

**ПАЛАТА ПРАДСТАЎНІКОЎ**

Пастаянная камісія па жыллёвай палітыцы і будаўніцтву

220010, г. Мінск, Дом Урада,
тэл./факс (017) 222-67-01, факс (017) 327-37-84
E-mail: zhyl@house.gov.by

**НАЦИОНАЛЬНОЕ СОБРАНИЕ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ**

**ПАЛАТА ПРЕДСТАВИТЕЛЕЙ**

Постоянная комиссия по жилищной политике и строительству

220010, г. Минск, Дом Правительства,
тел./факс (017) 222-67-01, факс (017) 327-37-84
E-mail: zhyl@house.gov.by

06.02.2015 № 12-04/33

на № ________________ от ____________

Случаку І. У.

Паважаны Ігар Уладзіміравіч!

Ваш зварот у чарговы раз разгледжаны ў Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па жыллёвай палітыцы і будаўніцтве па даручэнні Старшыні Палаты прадстаўнікоў.

Нагадваем, што Ваша прапанова па ўнясенні змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб абароне правоў спажыўцоў» шматразова разглядалася дэпутатамі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь чацвёртага і пятага скліканняў. Меркаванне дэпутатаў заключаецца ў тым, што ўвядзенне абавязку для вытворцы (прадаўца, пастаўшчыка, прадстаўніка, выканаўцы) прадастаўляць інфармацыю на дзвюх мовах не адпавядае Закону Рэспублікі Беларусь «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь».

Звяртаем Вашу ўвагу, што артыкулам 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь вызначаны дзве дзяржаўныя мовы – беларуская і руская. Кожны грамадзянін мае права гаварыць на любой мове, роўна як і кожны вытворца прадукцыі мае права даводзіць да ведама спажыўцоў інфармацыю або на адной з дзяржаўных моў, або на абедзвюх. Права, замацаванае ў Канстытуцыі, не павінна трансфармавацца ў абавязак для вытворцаў прадукцыі.

Пастаянная камісія не падтрымлівае Вашу прапанову і адзначае, што ў агульнаадукацыйных школах нашай краіны вывучаюцца беларуская і руская мовы. Кожны грамадзянін зможа прачытаць інфармацыю на адной з дзяржаўных моў.

Акрамя таго, рэалізацыя Вашай прапановы прывядзе да дадатковых выдаткаў, а значыць – да павышэння цэн на тавары (работы, паслугі), што відавочна супярэчыць інтарэсам нашых грамадзян.

Старшыня камісіі У.І.Пузырэўскі

12 Дзмітрук У.М. 2226334

НАЦЫЯНАЛЬНЫ СХОД
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
**ДЭПУТАТ**
ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ

НАЦИОНАЛЬНОЕ СОБРАНИЕ
РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
**ДЕПУТАТ**
ПАЛАТЫ ПРЕДСТАВИТЕЛЕЙ

02.02.2015 № №4

на № ____________

Случаку І.У.

Паважаны Ігар Уладзіміравіч!

Ваш ліст, у якім выказаны прапановы аб унясенні змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь “Аб абароне правоў спажыўцоў” мною разгледжаны.

Лічу, што школьная праграма дазваляе кожнаму аваподаць беларускай і рускай мовай на ўзроўні дастатковым для чытання і разумення сэнсу напісанага.

Вашы прапановы могуць быць мэтазгоднымі для насельніцтва і дзяржавы, калі знізяць выдаткі на тавары і паслугі, або павялічаць іх аб'ём продажы.

Дэпутат
Палаты прадстаўнікоу
Нацыянальнага сходу
Рэспублікі Беларусь

Г.В.Філіповіч

ТЫ ГАВОРЫШ, ШТО БЕЛАРУС

АЛЕ НЯ ВЕДАЕШ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

M&S MEDIA

Уладальнікі выдання ***M&S Media***

Заснавальнік: *Францыск Піцерскі*
Галоўны рэдактар: *Алесь Пыхаў*
Карэктар: *Мікола Хмызняк*

246050, г. Гомель, вул. Пуліхава, 17,
рэдакцыя "Справаводства па-Беларуску"

Надрукавана на
Папяровай фабрыцы "ГумНо", г. Клінцы,
вул. Мажаеўская, 17б.

Тыраж: 250 асобнікаў.

Распаўсюджваецца безкаштоўна.





**Архіў газеты "Справаводства па-беларуску!" ў Беларускай інтэрнэт-бібліятэцы KAMUNIKAT:**
http://kamunikat.org/spravavodstva_pa_bielarusku.html
**Архіў УКантакце:** http://vk.com/docs?oid=-19441275

*Мы ў сацыяльных сетках:*
***vk.com:*** spravavodstva_pa_belarusku
***facebook.com:*** spravavodstva

M&S MEDIA